ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 24 (123) 23 - 29 чэрвеня 1995 г. Кошт 500 рублёў



ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## НАРОДНЫ ФРОНТ ГЛЯДЗІЦЬ НАПЕРАД

**У суботу 24 чэрвеня ў 11 гадзін раніцы ў Горадні (палац хімікаў) пачне працу рэгіянальная канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту.**

- Мы запрасілі на яе прадстаўнікоў усіх фронтаўскіх суполак, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Заходняй Беларусі, - гаворыць старшыня Гарадзенскай рады Кастусь Жынь. - Плануем усебакова прааналізаваць вынікі нядаўніх выбараў, даць свае рэкамендацыі зьезду Народнага Фронту, які пройдзе 8 ліпеня ў Менску. Прыняць удзел у працы запрашаем усіх сяброў Фронту, якія жывуць у Горадні.

Аналагічная канферэнцыя праводзіцца гэтымі днямі і ў Магілёве.

**Ул.інф.**

## ЗА ПРЫГОЖЫЯ ВУСЫ КРЭДЫТАЎ НЕ ДАЮЦЬ

**Па выніках двухтыднёвага знаходжаньня ў Менску місіі Міжнароднага валютнага фонду, якая скончыла працу 16 чэрвеня, пастаянны прадстаўнік МВФ на Беларусі Уільям Міддзелкоап сустрэўся з журналістамі.**

Па словах спадара Міддзелкоапа, паміж місіяй і беларускім урадам было дасягнута пэўнае пагадненьне з мэтай атрыманьня Беларусьсю крэдыта “stand by” у суме каля 290 мільёнаў долараў. Гэта складае 70% ад квоты Беларусі ў Міжнародным валютным фоньдзе. У пагадненьні агаворваецца шэраг мер, якія павінен выканаць да 1 ліпеня беларускі бок для атрыманьня крэдыту. Гэта зацьверджаньне прэзідэнтам бюджэту на другое паўгоддзе бягучага году, якое прадугледжвае дэфіцыт бюджэту 3,2 працэнта гадавых; увядзеньне забароны для органаў мясцовага самакіраваньня на ўмяшальніцтва ў палітыку цэн; ліквідацыя статуса прадпрыемстваў-манапалістаў; давядзеньне праплаты насельніцтвам камунальных паслуг да 60% ад сабекошту; адмена мінімальна-максімальнай квоты на імпарт-экспарт тавараў; адмова Нацыянальнага банку ад абавязковага продажу валюты прадпрыемствамі; правядзеньне прыватызацыі (як заявіў Міддзелкоап, урад паабяцаў да канца года правесьці прыватызацыю 1250 рэспубліканскіх і муніцыпальных прадпрыемстваў). Таксама на бліжэйшую сесію парламанту павінны быць прадстаўлены законапраекты аб уласнасьці на зямлю і банкруцтве прадпрыемстваў. Яшчэ адна з умоў МВФ - аднаўленьне дзейнасьці інвестыцыйных фондаў.

У.Міддзелкоап адзначыў, што місія задаволена зьніжэньнем узроўню інфляцыі: “Мы дамовіліся, што ў будучым курс беларускага рубля будзе больш гібкім, каб затым наступіла паступовая дэвальвацыя беларускага рубля”. Ён назваў адмоўным фактарам рост неплацяжоў Беларусі за энерганосьбіты, якія паступаюць з Расеі. Пасьля выкананьня ўсіх умоў прадстаўнікі місіі ў Менску накіруюць у Савет дырэктараў справаздачу, і да канца ліпеня - пачатку жніўня Савет дырэктараў вынясе канчатковы вердыкт па выдзяленьні Беларусі крэдыту. Крэдыт, пры выкананьні Беларусьсю ўмоў МВФ, будзе давацца пяцьцю траншамі, прыкладна па 60 млн. долараў кожная з інтэрвалам у тры месяцы і пастаянным кантролем.

Адказваючы на пытаньне, ці паўплывае на рашэньне Савета дырэктараў рэзкая заява прэзідэнта Беларусі ў бок МВФ, спадар Міддзелкоап адказаў: “Я не хацеў бы каментаваць тое, што гаворыцца. Для нас галоўнае, што адбываецца. Механізм супрацоўніцтва МВФ з той ці іншай краінай дастаткова просты: калі краіна ідзе па шляху рэформ, значыць мы з ёй супрацоўнічаем, і наадварот”. Каментуючы факт адсутнасьці паўнавартаснага парламанта, які б мог прымаць законы, неабходныя для эканамічнага рэфармаваньня, ён сказаў: “На перагаворах прэзідэнт Беларусі заявіў нам, што ён сам бярэ на сябе адказнасьць і часткова выраўнаюць склаўшуюся сітуацыю сваімі ўказамі”.

**СІМ**

## ПЕР Ы БЛІН КАМЯКОМ

21 чэрвеня ў Навагрудку павінен быў прайсьці першы аўкцыён па продажу аб’ектаў камунальнай уласнасьці горада.

На таргі планавалася выставіць чатыры лоты (дзьве крамы і дзьве сталовых), якія знаходзяцца ў цэнтры горада. На жаль, аўкцыён не адбыўся, бо не было пададзена ніводнай заяўкі для ўдзелу ў ім. Хаця да апошняга дня заставалася надзея, што ён пройдзе, бо іншагароднія цікавіліся магчымасьцю набыцьця аб’ектаў у Навагрудку. Мясцовыя ж жыхары ўвогуле не праявілі ніякага інтарэсу.

**А. ДУК**

## ТРЫМАЦЬ І НЕ ПУШЧАЦЬ

**Па такому прынцыпу дзейнічаюць абласныя чыноўнікі ад культуры.**

**У той самы дзень, калі ў Менску з Дома ўраду здымалі нацыянальны сімвал беларусаў - герб “Пагоня”, гарадзенскія чыноўнікі ад культуры М.Калацэй і В.Брыкач забаранілі зьняць са шпіля гарадзенскага Новага замку сталінскую зорку.**






- Праблема ўзьнікла яшчэ чатыры гады назад, - расказвае дэпутат гарсавету, мастак-архітэктар Юрась Мацко, - пасьля таго, як, дзякуючы намаганьням грамадзкасьці, будынак Новага замку, у якім мясьціўся абкам КПБ, перадалі пад бібліятэку і музей. Помнік архітэктуры 18 стагоддзя, былы каралеўскі палац, дзе адбыўся апошні Сойм Рэчы Паспалітай, дзе прайшла апошняя нарада паўстанцаў Тадэвуша Касьцюшкі, адразу пасьля вайны быў “упрыгожаны” шпілем з зоркай, накшталт крамлёўскіх. Безумоўна, такое “упрыгожаньне” ніяк не пасавала ні да некалі велічнага і прыгожага барокавага палацу, ні да яго мінулага, ні да сёньняшняга. Але ж на поўную рэстаўрацыю Новага замку не было грошай. Так узьнікла ідэя хаця б часткова вярнуць будынку выгляд, які б нагадваў гісторыю Замку, адпавядаў яго архітэктуры і тым установам, якія цяпер там працуюць.

Ідэя была увасоблена ў праекце ветраніка, дзе раскрываецца легенда аб сьвятым Губерце, якая пакладзена ў аснову гарадзенскага гербу. Аўтар праекта, Юрась Мацко, атрымаўшы увосень 1994 года заказ на гэтую працу ад адміністрацыі музея, прадумаў усе нюансы гэтай справы. Легенда, якая дайшла да нас з VI стагоддзя, набыла матэрыяльныя абрысы ў выглядзе сьвятога Губерта, які стаіць на каленях перад аленем з залатым крыжам. Унізе - арнамант з дубовых лістоў, які сімвалізуе сілу, моц і прыгажосьць беларусаў. Усё гэта аздоблена двума званочкамі, якія зьвіняць ад самага малога подыху ветру...

Праект быў ухвалены заказчыкам, узгоднены з галоўным мастаком, намесьнікам галоўнага арзітэктара горада спадаром Анісімавым. Два разы, яшчэ ў мінулым годзе, былі спробы зьняць са шпіля сімвал сталінізму. Выканаўцы сьпяшаліся, бо вельмі хацелася ўсталяваць ветранік да адзначаемага сёлета 500-годдзя наданьня Горадні Магдэбурскага права і герба, які, дарэчы, афіцыйна зацьверджаны гарсаветам. Нарэшце, у канцы траўня, удалося “састыкаваць” каля Новага замку самы вялікі ў горадзе 48-метровы кран “Круп”, альпіністаў, і адпаведнае надвор’е. Але...

- Хто дазволіў? - голасна запытаў намесьнік старшыні аблвыканкаму М.Калацэй, які зьявіўся праз гадзіну пасьля пачатку працы, - я вам пакажу, што ў горадзе яшчэ ёсьць Савецкая ўлада!..

А пасьля пад’ехаў і начальнік упраўленьня культуры аблвыканкаму В.Брыкач, які заявіў, што такія рэчы трэба зацьвярджаць у Менску, што гэта помнік архітэктуры... Зорка засталася на месцы.

Выглядае на тое, што гарадзенскія ўлады, як той ветранік, - куды падуе вецер, туды і глядзяць. Савецкая ўлада працягваецца.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**
**ФАТАГРАФАВАЎ А.УЛАДАСЕВІЧ.**

## САЮЗУ ПАЛЯКАЎ – ПЯЦЬ ГАДОЎ

**Пяць гадоў свайго існаваньня адзначыў у мінулую суботу Саюз Палякаў на Беларусі. Урачыстасьці з гэтай нагоды адбыліся ў забытковым Тэатры Антонія Тызенгаўза, які хацеў, каб горад над Нёманам быў адным з найпрыгажэйшых і культурных ва Ўсходняй Эўропе, каб тут мірна жылі людзі розных поглядаў, нацыянальнасьцяў.**

- Сёньня ў шэрагах Саюзу Палякаў больш дваццаці пяці тысяч нашых суайчыньнікаў, якія дзейнічаюць ва ўсіх абласцях рэспублікі ў 160 гарадзкіх, раённых, пасялковых і вясковых аддзелах, - падкрэсьліў выступаючы на ўрачыстым сходзе старшыня Саюзу Тадэвуш Гавін. - Сёньня кожнае польскае дзіця можа, нічога не баючыся, вучыцца сваёй роднай мове ў школе, моладзь мае магчымасьць студыяваць паланістыку ў Гарадзенскім універсітэце, вучыцца ў Польшчы. Вялікую ўвагу нашыя дзеячы надаюць адраджэньню культуры. Дзейнічае болей як 30 ансамбляў польскай песьні і танца, праводзяцца фестывалі, выстаўкі польскіх кніг, часопісаў, навуковыя канферэнцыі. Шмат увагі ўдзяляецца адраджэньню народных традыцый.




За пяць гадоў адраджэньня духоўнага жыцьця палякі дасягнулі многага: у 360 школах рэспублікі больш як 14,5 тысяч дзяцей вучацца роднай мове, у 18 класах школ Горадні, Берасьця, Менска, Ліды, Ваўкавыска, Сапоцкіна навучаньне вядзецца толькі на польскай мове, пазнаюць родную мову і ў дзіцячых садках гарадоў і вёсак, больш за 450 маладых людзей вучацца ва універсітэтах Польшчы.

Галоўнае праўленьне Саюзу Палякаў месьціцца ў прыгожым будынку, які быў збудаваны з дапамогай таварыства “Вспульнота Польска”, падобны будынак таксама збудаваны ў Баранавічах, будуецца ў Шчучыне, Лідзе, рэканструіруецца ў Магілёве.

На ўрачыстасьцях з нагоды пяцігоддзя Саюзу Палякаў было шмат гасьцей з Беларусі, Польшчы і Летувы. Павіншавалі сваіх сясьцёр і братоў-палякаў лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк, старшыня культурна-асьветніцкага фонду “Бацькаўшчына” Мікола Маркевіч. Але, на вялікі жаль, нікога не было з ураду Рэспублікі, толькі міністр культуры і друку даслаў тэлеграму. З абласнога і гарадзкога кіраўніцтва таксама ніхто не прысутнічаў.

**Яўген РАДУНЬ.**
**ФАТАГРАФАВАЎ Я.ВАНЮКЕВІЧ.**

## КДБ АБУРАНЫ «ПАГОНЯЙ»

**Прэс-служба гарадзенскай абласной управы КДБ вельмі своеасабліва адрэагавала на адну з публікацыяў у нашай газеце. Чамусьці ў “Гродзенскай праўдзе” была надрукавана “отповедь” на наш выступ. Раздражненьне гучыць ужо ў самім загалоўку заявы - “Как фабрикуются ”преследования" КГБ".**

Што ж мы даведаліся з гэтай заявы? Чытаем: “У N 18 газеты ”Пагоня" за 12-18 мая апублікавана заметка пад загалоўкам “Спадарыня Таўлуй раіць сьледчым КДБ”. У ёй паведамляецца пра факт распаўсюджваньня ў горадзе Навагрудку ўлётак на “добраякаснай паперы і з высокім узроўнем друку”... у якіх высьмейваецца першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь", а таксама пра тое, што мясцовы аддзел КДБ і міліцыя вядуць пошук зламысьнікаў.

Што ж выклікала нязгоду ў абласной службы бясьпекі? З заявы, у якой ажно 130 радкоў газетнага тэксту, можна зразумець, што размова ідзе толькі пра дзьве невялікія зачэпкі. Аказваецца, у публікацыі начальнік Навагрудзкага аддзела КДБ, прозьвішча якога чытачам не раскрываецца, названы ўсяго толькі сьледчым. Хаця, маўляў, сьледзтва ніякага не было. А па-другое, у газеце напісана, што сьледчы КДБ выклікаў старшыню Рады БНФ да сябе, а на самой справе ён, аказваецца, сам прыходзіў да яе на працу.

Напрыканцы заявы прэс-службы КДБ зноў чытаем папрок на адрас “Пагоні”, якая нібыта “разьдзьмухвае з мухі слана і прадстаўляе БНФ у ролі перасьледаванай з боку КДБ арганізацыі”. А сканчаецца заява скаргай на тое, што “дасьціпнікі высокага палёту” і аматары ўсякага роду брудных надпісаў" адбіраюць у органаў час і сілы, адцягваюць ад барацьбы з крымінальнай , у тым ліку арганізаванай злачыннасьцю.

Якія высновы вынікаюць з усяго гэтага? Па-першае, сп-ня Таўлуй, напалоханая размовай з кіраўніком мясцовай дзяржбясьпекі, сама затэлефанавала ў рэдакцыю “Пагоні” і паведаміла пра здарэньне. Па-другое, канешне, гэтая служба мусіць дбаць менавіта пра бясьпеку прэзідэнта Лукашэнкі, хаця ў яго толькі асабістай аховы 300 чалавек. Аднак КДБ, як бачым, па-ранейшаму змушаюць займацца зусім іншым. Больш таго. Займаючыся справамі, якія за папярэднія дзесяцігоддзі заплямілі КДБ, пераўтварылі яго ў пудзіла, “кампетэнтны орган” праяўляе зайздросную выбіральнасьць. Раней ён займаўся толькі “ворагамі народу”. Цяпер - выключна сябрамі Фронту. Успомнім, каго выклікалі у будынак на Тэльмана па справе забойства Арцымені (глядзі “Пагоню” за той перыяд)... Цяпер вось “высьмейваньне Прэзідэнта”. Няўжо ў КДБ сапраўды няма іншых спраў?

Падобна на тое, што неўзабаве за ўлётку, карыкатуру або анекдот будуць саджаць за краты, як было пры Сталіне.

**Ул. інф.**

Наступны нумар “ПАГОНІ” выйдзе 7 ліпеня.



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ШТО ВЫКАПАЎ ПРЭЗІДЭНТ?

**Пару тыдняў таму ў гісторыі Беларусі адбылася падзея, якая вартая таго, каб увайсьці ў аналы гісторыі сусьветнай. Беларусы сталі першым у сьвеце народам, які рукамі свайго прэзідэнта зруйнаваў мяжу сваёй дзяржавы. Паведамленьне сродкаў масавай інфармацыі аб тым, што Лукашэнка на беларуска-расейскай мяжы выкапаў слуп, як сімвал ліквідацыі мытных перашкодаў паміж дзьвума краінамі, выклікала шмат пытаньняў. Чаму замест таго, каб зламаць, напрыклад, мытны шлагбаум, прэзідэнт выкапаў памежны слуп? У нас што - ліквідавана мяжа з Расеяй? Ці расейская мяжа ўжо за Бярэсьцем і Горадняй? На жаль, гэта фактычна так. Але здарылася гэта не па волі народа, які на рэферэндуме галасаваў за эканамічнае збліжэньне з Расеяй, а па сцэнарыю, які да нядаўняга часу ўтойваўся яго стваральнікамі ад таго ж народа.**

Тое, што беларусы падтрымаюць прапанову прэзідэнта працягваць курс на збліжэньне з Масквой, прагназавалася лёгка. Як можна было не згадзіцца на "інтэграцыю", калі газеты, радыё, тэлебачаньне амаль штогадзіна ўбівалі насельніцтву ў галовы думку, што ўсе беды і няшчасьці беларусаў сталі вынікам "развалу братніх сувязяў з Расеяй". Што, як толькі "інтэгруемся" - атрымаем паліва па ўнутраных расейскіх коштах і прададзім у Расею трактары, станкі, тэлевізары, якімі забітыя склады прадпрыемстваў. Адкуль той жа самы селянін ці рабочы мог ведаць, што ў самой Расеі крызіс і ніхто там не імкнецца купіць дарагія беларускія трактары ці лядоўні? Адкуль ён мог ведаць, што тыя ж прыбалты, якія атрымоўваюць нафту і газ па сусьветных коштах неяк даюць сабе рады і жывуць па-чалавечы?

Адкуль ён мог ведаць, што, галасуючы за "эканамічную інтэграцыю, ён аддае свой голас за інтэграцыю зусім іншую, бо эканамічнае збліжэньне дзьвюх краін пасьпяхова праходзіла і да рэферэндуму, што ўсе умовы для яго падрыхтаваны даўно. Дзейнічае дамова аб калектыўнай бясьпецы краін СНД, 6 студзеня падпісана пагадненьне аб ліквідацыі мытнай мяжы, 21 лютага абодва прэзідэнты падпісалі дамову аб дабразычлівасьці і супрацоўніцтве ў супольным кіраўніцтве мытнымі службамі і ахове межаў. Падчас той сустрэчы Барыс Ельцын сказаў пра межы Беларусі: "Гэта адначасна і мяжа Расеі". З гэтага лагічна выцякалі факты зьяўленьня ў сярэдзіне траўня расейскіх мытнікаў на беларуска-польскай мяжы і ўдзел Лукашэнкі і Чарнамырдзіна ў ліквідацыі памежных слупоў. Усё гэта запланавана і рэалізавана было незалежна ад вынікаў рэферэндуму, на якім народ, не ўпаўнаважваў свайго прэзідэнта зьнішчаць дзяржаўныя межы.

Дык у чым жа сапраўды сэнс "інтэграцыйнай" палітыкі Лукашэнкі? Адказ на гэтае пытаньне прагучаў з вуснаў самаго прэзідэнта падчас інтэрв'ю Грамадзкаму расейскаму тэлебачаньню 12 чэрвеня. З прамовы Лукашэнкі выцякае думка, што суверэнітэт Беларусі зьяўляецца памылкай гісторыі, што беларусы "обречены" жыць разам з рускімі ў адной дзяржаве і што з яго (прэзідэнта) боку для гэтага зроблены ўсе крокі і зараз усё залежыць ад Масквы.

Атрымаўшы на рэферэндуме падтрымку на эканамічнае збліжэньне, прэзідэнт зрабіў усё для таго,каб ліквідаваць такую, з яго пункту гледжаньня, недарэчнасьць, як незалежная, нейтральная Беларусь. Вось такая яма для гэтай самай Беларусі і засталася на месцы выкапанага памежнага слупа.

**Вітаўт РУДНІК**

## НЕ НАРОДНЫ ФРОНТ ПРАЙГРАЎ ВЫБАРЫ, А ТАТАЛІТАРНЫ РЭЖЫМ ЛУКАШЭНКІ ПЕРАМОГ ДЭМАКРАТЫЮ

**Для Беларускага Народнага Фронту вынікі рэферэндуму ня маюць ніякага значэньня. Рэферэндум быў незаконна прызначаны, незаконна праведзены і вынікі яго незаконна скарыстоўваюцца.**

**Падчас выбараў і рэферэндуму былі створаны няроўныя ўмовы. Рэжым, скарыстаўшы манаполію на ўладу і сродкі масавай інфармацыі, перамог Народны Фронт і ўсю дэмакратыю разам. Але гэтай перамогай рэжым загнаў сябе ў тупік. На сёньня ў Лукашэнкі няма палачкі-выручалачкі ў асобе ворагаў-"бэнээфаўцаў". Сёньня ён застаўся сам-насам з народам з аднаго боку і з камуністамі з другога.**

**Што рабіць ва ўмовах антынацыянальнага рэжыму?**

Стратэгія Беларускага Народнага Фронту застаецца такой жа, як і была. Гэта "Стратэгія адраджэньня": дзяржавы, культуры, эканомікі і г.д.

Наша задача прарваць інфармацыйную блакаду. Дзеля гэтага мы павінны працаваць на двух узроўнях: вышэйшы ўзровень - гэта рэалізацыя аб'ядноўчай ідэі і паразуменьня эліт. Бюракратыя пачынае адчуваць небясьпеку ад страты ўласнай дзяржавы. З нашага векавечнага супраціўніка яна становіцца нашым саюзьнікам. Ужо зарэгістравана газета "Народная воля", рэдактарам якой будзе Іосіф Сярэдзіч. Плануецца выданьне яшчэ адной газеты і аднаго часопіса.

Ніжэйшы ўзровень. Трэба зьмяніць тактыку дзейнасьці. Мы - не выбарчы клуб, мы - рух. Прынцып нашай дзейнасьці: "Увайдзі ў кожны дом". Трэба ведаць кожную нашую і патэнцыяльна нашую кватэру. Трэба непасрэдна працаваць з людзьмі. Трэба весьці чарнавую работу па стварэньню грамадзкай супольнасьці. Гэта рэалізуецца праз стварэньне арганізацый, фондаў, гурткоў, падпіску на газеты "Свабода", "Пагоня".

Мы павінны ўвайсьці ў кожную арганізацыю, удзельнічаць у кожным мерапрыемстве. Калі праводзяцца выбары старшыні садаводчага кааператыва, ім павінен быць франтавец, калі нават выбіраюць старшага пад'езда, то і ім павінен быць франтавец, у шахматна-шашачным клубе павінен быць франтавец.

Мы павінны стварыць яшчэ адзін фронт - маладзёжны.

Мы павінны дасягнуць салідарнасьці міжнароднай супольнасьці, забясьпечыць выхад у свабодны сьвет, інфармаваць замежжа. У нас ужо ёсьць дамовы з Чарнавілам і Малдовай, што любая нашая інфармацыя будзе друкавацца ў іх і перадавацца на Захад. Павінен выдавацца бюлетэнь "Навіны БНФ". Людзі не інфармаваны.

Мы павінны прадоўжыць арганізацыйнае ўмацаваньне Фронту. Павінна быць скарыстана сістэма "Матрошка", калі пад адной структурай хаваецца адна, або некалькі новых структур.

Асаблівую ўвагу мы павінны зьвярнуць на Партыю БНФ, як ядро Фронту.

Павінна быць уведзена строгая працэдура членства ў партыі. Неабходна ўвесьці кандыдацкі тэрмін, прыём у суполцы, рэкамендацыі, строгую цэнтралізацыю.

Найбольш мэтазгодна другую частку зьезду правесьці да 10 ліпеня. Да гэтага трэба правесьці дзьве тэрытарыяльныя канферэнцыі: у Горадні і ў Магілёве.

Калі мы будзем правільна працаваць, бел-чырвона-белы сьцяг вернецца разам з дэмакратыяй.

**З выступу Зянона ПАЗЬНЯКА на Сойме Народнага Фронту.**

## УСЁ ТОЛЬКІ ПАЧЫНАЕЦЦА

### АБ ПЕРСЬПЕКТЫВАХ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫЗВАЛЕНЬНЯ

**Лічу не зусім правільнай пазіцыю часткі прыхільнікаў БНФ, якая можа быць выказана так: "...маўляў, тое Фронт не зрабіў, сёе не зрабіў". Пры такім падыходзе ня ўлічваюцца патрабаваньні, неабходныя для сістэмнай ацэнкі зьяў.**

**Справа ў тым, што ня ўсё ў апошняй гісторыі Беларусі залежала ад Народнага Фронту, бо ён быў не адзіным элементам палітычнай сістэмы. Былі і іншыя, ня менш важныя. Такія, напрыклад, як узровень псіхалагічнай гатоўнасьці "народных мас" успрыняць ідэю нацыянальна- дэмакратычнага адраджэньня; ступень зацікаўленасьці ў дэмакратычных пераўтварэньнях на Беларусі перадавых краін Захаду; ступень незацікаўленасьці ў тым самым з боку імперскай Расеі, і іншыя.**

Дадатковыя пералічаныя элементы (асабліва два апошніх) у значнай ступені не залежалі ад БНФ і яго кіраўніцтва. Таму адносна дзейнасьці Фронту іх трэба лічыць аб'ектыўнымі фактарамі. Прычым фактарамі, якія былі неспрыяльнымі для канчатковай перамогі на Беларусі нацыянальна-дэмакратычнай ідэі.

У гэтых умовах, пры такім зыходным раскладзе, што б станоўчага не зрабіў Фронт, яму і яго кіраўніцтву трэба толькі дзякаваць. Рабіць жа заўвагі Фронту можна толькі за тое, што ён мог рэальна зрабіць, але не зрабіў.

У той час, пазіцыя жыхароў Беларусі знаходзілася і будзе знаходзіцца ў значнай залежнасьці ад дзейнасьці Народнага Фронту. Гэта азначае, што арганізацыя павінна дзейнічаць і далей. У любых умовах пытаньне толькі ў тым, каб гэта дзейнасьць была найбольш выніковай.

Цяпер відавочна, што Фронт праіграе імперска-камуністычным сілам ІДЭАЛАГІЧНА. Дазваляю сабе вылучыць гіпотэзу, што ў падмурку гэтага пройгрышу знаходзіцца надта вялікая ідэалізацыя (калі жадаеце, рамантызацыя) кіраўніцтвам Фронту паняцьця "народ"(гаварылася ж ... "наш народ вельмі разумны, ён усё зразумее"). Нашыя ж супернікі зыходзілі з таго, што жыхары Беларусі - гэта ў асноўнай масе нешта на многа больш прымітыўнае.

Каб далей не рабіць памылак, неабходна прыняць і замацаваць у сьвядомасьці ўсіх сяброў Фронту (і асабліва яго кіраўніцтва) наступную мадэль. Беларускі народ - гэта тая частка беларускага грамадзтва, якая высока цэніць сваю гісторыю, культуру, мову і незалежнасьць, для якой чалавечая годнасьць, свабода, маральнасьць - ня проста словы, а нешта рэальнае і вельмі важнае. Як выходзіць з аналізу вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 1994 г., рэферэндуму і выбараў у Вярхоўны Савет 1995 г., НАРОД на Беларусі складае 1/4-1/3 частку ўсіх яе жыхароў. Дзьве ж трэціны - складае НАСЕЛЬНІЦТВА (вонкавага ці нутранога паходжаньня). Вось і атрымліваецца, што Народны Фронт у сваёй прапагандзе рабіў стаўку на 1/3, а імперска-камуністычныя колы на 2/3 ад усіх жыхароў Беларусі (суадносіны 1:2).

Цікава, што гэтыя суадносіны практычна не зьмяніліся за год кіраваньня тав. Лукашэнкі. А гэта значыць, што хутка перавыхаваць большасьць людзей Беларусі, так, каб яны пачалі ўспрымаць нацыянальна-дэмакратычныя ідэалы, ня ўдасца (ды і ўвогуле, ці магчыма?).

У сваёй большасьці людзі з катэгоры "насельніцтва" проста ня здольныя ўбачыць выгаду для сябе са складаных тлумачэньняў(напрыклад, эканамічнай Праграмы Фронту); ня здольны ўспрыняць тое, што асноўным ворагам, нават іх дабрабыту, зьяўляюцца імперскія колы Расеі; што царызм, камунізм, расейскі фашызм - гэта толькі формы існаваньня расейскай імперыі, якая толькі і здольна, што паразітаваць на працы людзей. Дык вось, адносна катэгорыі "насельніцтва" Фронт і праіграе ва ўвядзеньні ў людзкую сьвядомасьць некалькіх падставовых ідэалагічных паняцьцяў. А на гэтым, у сваю чаргу і гуляюць сваю брудную гульню супернікі (дарэчы аб вывертах імперска-камуністычнай прапаганды трэба пісаць асобны артыкул).

На мой погляд, існуюць два падставовых паняцьця, якія не былі ў свой час надзейна ўведзены ў сьвядомасьць грамадзтва і з-за якіх мы сёньня праіграем.

ПА-ПЕРШАЕ, большасьць простых людзей так і не зразумелі - чаго хоча Беларускі Народны Фронт.

ПА-ДРУГОЕ, людзі так і не зразумелі, што, як былі ва ўладзе камуністы, так яны і засталіся ўсе апошнія гады (слоў "... гэты камуністычны Вярхоўны Савет" было яўна недастаткова).

Калі б мы не прайгралі ў гэтых пытаньнях, у галовы беларусаў немагчыма было б увесьці, напрыклад, такое меркаваньне - "Франтаўцы - гэта фашысты".

Ці была магчымасьць пазьбегнуць у ідэалагічнай барацьбе названых пройгрышаў? Відаць была.

Калі б кожнае публічнае выступленьне лідараў і актывістаў Фронту пачыналася словамі "... мы , прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту" хочам толькі АДНАГО, каб жыхары Беларусі, працуючы так, як зараз, жылі ў 10-20 разоў лепш, чым зараз, і мы ведаем, як гэтага мірна дасягнуць за 5-10 гадоў. Калі б у 1992-94 гадах Фронт правёў некалькі шумных акцыяў пад лозунгамі "камуністы, аддайце ўладу", "камуністы, далоў ад улады" - відаць зараз не была бы так распаўсюджана думка, што "... калі да ўлады прыйшлі дэмакраты, жыць стала горш", ці "... калі Народны Фронт прыйдзе да ўлады, будзе вайна".

Такім чынам, асноўная задача Фронту цяпер заключаецца ня ў тым, каб перавыхоўваць насельніцтва ў народ, а ў тым, каб як мага большая колькасьць людзей ПРОСТА ПАЙШЛА за Фронтам. Усе падставы для гэтага ёсьць. А самая галоўная з іх заключаецца ў тым, што пераважаючая частка насельніцтва Беларусі аб'ектыўна зацікаўлена ў перамозе Фронту, бо менавіта ён адлюстроўвае яе (часткі) АБ'ЕКТЫЎНЫЯ ІНТАРЭСЫ.

Нават, калі падзеі на Беларусі будуць і далей разьвівацца самым непажаданым чынам, Фронт у першую чаргу павінен заняцца ўвядзеньнем у грамадзкую сьвядомасьць ідэалогіі, прыкладна наступнага зьместу:

- БНФ дамагаецца толькі таго, каб за тую ж працу людзі жылі ў 10-20 разоў лепш, чым зараз;
- калі б ва ўладзе быў БНФ, усе грошы, атрыманыя за транзіт праз Беларусь ды арэнду вайсковых баз, аддаваліся б у фонд сацыяльнага забесьпячэньня, і тады пеньсіянеры атрымлівалі б на многа большыя пеньсіі;
- а чаму гэта мяне прымушаюць купляць расейскія "масквічы","жыгулі", ці іншыя тавары, калі я за такія ж грошы мог раней свабодна купіць больш якасны, надзейны і шыкоўны "мерсэдэс", "фольксваген" ці іншыя тавары?
- Народны Фронт абкладзе ўсе катэджы, пабудаваныя за незаконныя ссуды ў перыяд інфляцыі, дадатковым падаткам і за кошт гэтых грошай будзе будаваць жыльлё для маладых сем'яў;
- паглядзі, палякі і прыбалты жывуць усё лепш і лепш;
- дзякуючы Народнаму Фронту мой сын служыць на Беларусі, а не дзе-небудзь далей і, дзякуючы гэтаму, не загінуў з-за нестатутовых адносін ці на вайне;
- у любой краіне, дзе людзі жывуць добра, ва ўладзе не камуністы, а менавіта дэмакраты.
- камуністы ніколі не адыходзілі ад улады на Беларусі. Яны проста прыкрыліся нацыянальнымі сімваламі, паставілі Шушкевіча і зрабілі выгляд, што пры ўладзе дэмакраты;
- бел-чырвога-белы сьцяг - гэта нацыянальны сімвал, а цяпер Лукашэнка вярнуў старыя камуністычныя сімвалы. Гэта ж ганьба на ўвесь сьвет!
- гэта ж нармальна, калі на Беларусі беларусы размаўляюць на беларускай мове, так і павінна быць;
- якія БНФаўцы фашысты, калі за многія гады яны нават морду нікому не набілі. А Лукашэнка за адзін год пасьпеў пастраляць па сваім аўтамабілі і зьбіць дэпутатаў, студэнтаў. Гэта ж менавіта ён здольны страляць у людзей.

Праз год-два альбо 10-20 гадоў, калі імперскі націск на Беларусь зноў аслабне (гэта, напэўна, адбудзецца, пытаньне толькі ў часе), усе элементы названай у пачатку артыкула сістэмы павінны быць больш спрыяльнымі. Напрыклад, будзе вышэйшы ўзровень сацыяльна-палітычнай дасьведчанасьці грамадзтва, бо ў грамадзтве ўжо будзе ўкаранена нацыянальна-дзяржаўная ідэя і грамадзтва ўбачыць, чаго дасягнулі прыбалты і ўсе іншыя краіны былога сацлагеру. Будзе большая ступень зацікаўленасьці краін Захаду (пасьля чарговага ядзернага шантажу з боку Расеі) у дэмакратычнай Беларусі. Новая хваля актыўнай дзейнасьці Усебеларускага Вызвольнага Руху пачнецца на падставе большай дасьведчанасьці і арганізаванасьці, бо ўжо будуць існаваць пэўныя традыцыі і досьвед. У цэлым, сітуацыя будзе нагадваць тую, якая была ў канцы 80-х у Прыбалтыцы.

Таму ў прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту не павінна быць настрою, што ўсё страчана (і гэта, бадай, самае важнае). Наадварот, усё толькі пачынаецца, і цяпер усур'ёз. Так, мы прайгралі "першую бітву", але ніяк не "вайну". За намі праўда, а гэта значыць, што наперадзе - ПЕРАМОГА.

Пытаньне толькі ў часе і ў яе кошце...

**Алесь АСТРОЎСКІ,**
**Прафесар ГрДзМІ,**
**доктар медыцынскіх навук.**

## РЭЦЭПТЫ ПОСЬПЕХУ - У ДАКТАРОЎ

На фоне "трыумфальнага шэсьця" па дэпутацкія мандаты аграрыяў і "чырвоных" беспартыйных зусім невырагодна выглядаюць вынікі выбараў у абласны савет па Гальшанскай выбарчай акрузе. З вялікім адрывам перамогу тут атрымаў сябра БНФ Аляксандр Белянкоў. Сп.Белянкоў праце загадчыкам хірургічнага аддзяленьня Ашмянскага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднаньня. Відаць, у ашмянцаў на месцы ня толькі косьці, але і мазгі.

Цікава, што на выбарах у Гарадзенскі гарсавет найбольш галасоў сярод "адраджэнцаў" сабралі таксама дактары - Алесь Лобан і Яўген Кухта. Першы пасьпяхова ўплываў на вочы электарату, другі - на нервы.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## ПАЭТ І ПРАКУРОР

14 чэрвеня ўласны карэспандэнт "Пагоні" Станіслаў Суднік быў выкліканы да намесьніка пракурора г.Ліды сп.Скакуна для дачы тлумачэньняў з нагоды публікацыі ў мясцовай газеце "Голас з Ліды" верша "Здрада". Паэт мусіў у даступнай для пракурора форме перадаць зьмест і скіраванасьць верша.

Заяву пракурору напісалі прадстаўнікі мясцовай арганізацыі партыі камуністаў. У іх свой жанр у літаратуры. На верш, паэму, эсэ яны могуць адказаць толькі плёткай, даносам, паклёпам.

14 чэрвеня 1995 года, безумоўна, будзе запісана ў гісторыю горада Ліды. Упершыню за 672 гады існаваньня горада паэт тлумачыў тут сэнс верша пракурору.

**Ул.інф.**

# ЗАВОДЫ «ЗАПУШЧАНЫ». ШТО ДАЛЕЙ?

**Работнікі прамысловых прадпрыемстваў Горадні спадзяваліся, што пасьля заварэшэньня ацяпляльнага сезону яны, нарэшце, як ім і абяцаў прэзідэнт, пачнуць стала працаваць. Але ж іх у чарговы раз падманулі. Становішча працягвае пагаршацца, бо выробленая імі прадукцыя ня мае збыту, і ў выніку няма абаротных сродкаў, працы, грошай на выплату заробку. Але цярпеньне людзей не бязьмежнае, і яны, каб зьвярнуць увагу на свае праблемы ўлад, адміністрацый прадпрыемстваў, вымушаны ісьці на крайнія меры - баставаць, мітынгаваць.**

Прыкладу калектываў АТ “Гроднаабутак”, ВА “Хваля” і іншых пасьледавалі прадстаўнікі працоўнага калектыву Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб’яднаньня. 9 і 13 чэрвеня яны правялі мітынгі і запатрабавалі выплаты зарплаты за красавік-травень; афармленьня чарговага адпачынку з 1 ліпеня з захаваньнем заработнай платы; паінфармаваць рабочых аб персьпектывах прадпрыемства на бліжэйшыя тры месяцы (па чутках, кіраўніцтва ня ў стане арганізаваць работу да кастрычніка месяца); перагледзець пункты калектыўнага дагавору па аплаце працы; у выпадку парушэньня тэрмінаў аплаты працы, выплату зарплаты рабіць з улікам інфляцыі; выключыць з калдагавору фармулёўку “пры наяўнасьці сродкаў”. Зразумеўшы, што іх патрабаваньні наўрад ці будуць задаволены, работнікі прадпрыемства пайшлі далей: склалі ліст, які падпісалі 180 чалавек, і накіравалі яго на імя прэзідэнта, старшыні Гарадзенскага аблвыканкаму, і старшыні Кантрольнай палаты краіны. Вось яго тэкст:

*“Да Вас зьвяртаюцца работнікі дзяржаўнага прадпрыемства - Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб’яднаньня з пераканаўчай просьбай: стварыць камісію па расьследаваньню фінансава-эканамічнай дзейнасьці кіраўніцтва нашага прадпрыемства. Мы знаходзімся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы: ня выплачана зарплата за красавік, травень месяц 1995 года. Кіраўніцтва ня ведае, што будзе з намі ў бліжэйшы час і калі прадпрыемства зможа працаваць. Просім зьвярнуць увагу камісіі на наступныя хвалюючыя нас пытаньні. Як выкарыстоўваліся кіраўніцтвам нашага аб’яднаньня крэдыты, раней атрыманыя для будаўніцтва новай прадзільнай фабрыкі? У тыя часы (каля 5 гадоў таму) пры звароце да кіраўніцтва на прадмет павышэньня заработнай платы ці дадатковага будаўніцтва жыльля для рабочых, генеральны дырэктар Лубянько П.Д. спасылаўся на адсутнасьць сродкаў з-за неабходнасьці будаўніцтва новай прадзільнай і швейнай фабрык. Апошнія дагэтуль не пабудаваны.*

*Кантракт, заключаны з Германіяй пры пасрэдніцтве польскіх прадстаўнікоў на пастаўку коўдраў, рэзка зьнізіў прадукцыйнасьць працы. Прадукцыя рэалізуецца ніжэй сабекошту. Невядомы парадак узаемаразьлікаў, куды паступае і як выкарыстоўваецца валюта ад гэтай зьдзелкі. Генеральны дырэктар сістэматычна падманвае калектыў, сьцьвярджаючы, што нямецкі бок несвоечасова расплачваецца за рэалізаваную ім прадукцыю. Ён сьцьвярджаў на сходах працоўнага калектыву ў красавіку і траўні месяцы, што нямецкі бок павінен нашаму прадпрыемству 540 тысяч нямецкіх марак.*

*Падчас мітынгаў, праведзеных калектывам аб’яднаньня 09.06.95г. і 13.06.95г., на якія былі запрошаны прадстаўнікі прэсы, гарвыканкаму, райвыканкаму, дырэктар публічна заявіў, што разьлік робіцца сістэматычна, але валюту забірае дзяржбюджэт. Пасьля гэтага зьявіліся меркаваньні, што Лубянько П.Д. выкарыстоўвае дзяржаўнае прадпрыемства як дах для сваіх мэтаў.*

*Акрамя таго, з нашых асабістых назіраньняў пры адсутнасьці (як сьцьвярджае Лубянько) абаротных сродкаў вядзецца інтэнсіўная праца па будаўніцтву швейнай фабрыкі, гаражоў у раёне мясакамбінату, катэджаў, пабудаваны дзьве саўны на тэрыторыі прадпрыемства для вузкага кола асоб, адкрываюцца цэхі ў калгасах (в.Алекшыцы, Гожа, Міноўты) па выпуску пражы. Абсталяваньне ў гэтыя цэхі набывалася ў Расеі за кошт прадпрыемства, і ніякія мытні ім у гэтым не перашкаджалі. Працуе мэблевы цэх, набываюць для яго драўніну, выраблююць з яе вагонку, дошкі і пастаўляюць у Польшчу пад выглядам банкетак.*

*Лубянько П.Д. рэдка бывае на прадпрыемстве, пастаянна ў раз’ездах: то ў Польшчы, то ў Германіі, Аўстраліі, ЗША. Пасьля апошняй паездкі ў ЗША ў красавіку месяцы Лубянько поўнасьцю спыніў асноўную вытворчасьць, у зарплаце адмаўляе, накіраваў рабочых у адпачынак за свой кошт на няпэўны тэрмін. У той жа час пастаянна працуе ўпраўленьне, будгрупа, мэблевы цэх. Зьмяніліся адносіны да рабочых, грубіць, накіроўвае на сталае жыхарства ў вёску: “С земли пришли - на землю возвращайтесь!” Пагражае скарачэньнямі, звальненьнямі, сьцьвярджае, што прадпрыемства на мяжы банкруцтва.*

*Даводзім да вашага ведама, што мы, рабочыя, у 1993 годзе ўжо спрабавалі зьвярнуць увагу Кантрольнай палаты вобласьці на ўсе вышэй выкладзеныя факты, аднак Лубянько, відаць, мае трывалыя сувязі і нашаму лісту не далі ходу. Прыехаўшая камісія праводзіла гутаркі з невялікім колам людзей, ніякай праверкі фінансавай дзейнасьці не праводзілася. Людзей, якія падпісалі ліст, пачалі трэціраваць, спрабавалі некаторых звольніць. Маючы горкі вопыт, многія адмаўляліся паставіць подпіс. Асноўная маса рабочых, якія ня маюць сродкаў для пражываньня ў горадзе, раз’ехалася. На стыхійны мітынг сабраліся людзі, у якіх зусім безвыходнае матэрыяльнае становішча. На мітынгу былі сабраны подпісы. Подпісы працягваем зьбіраць. Пераканаўча просім назначыць кампетэнтную камісію па праверцы фінансавай дзейнасьці”.*

Падзеі апошніх двух тыдняў насьцярожылі адміністрацыю прадпрыемства. І яна ў сваю чаргу склала ліст на імя прэзідэнта, старшыні Кабінета Міністраў і старшыні ВС РБ наступнага зьместу:

*“9 і 13 чэрвеня 1995 года на тэрыторыі Гарадзенскага вытворчага тонкасуконнага аб’яднаньня адбыліся несанкцыянаваныя мітынгі прадстаўнікоў працоўнага калектыву аб’яднаньня. Неабходна ўлічыць, што, нягледзячы на вельмі цяжкае фінансавае становішча рабочых, людзі ў свёй большасьці разумеюць, што на сёньняшні дзень яшчэ ёсьць магчымасьць не зьвяртацца да крайніх мераў і дамовіцца з кіраўніцтвам рэспублікі аб дапамозе ў выхадзе прадпрыемства з крызісу.*

*Нашае прадпрыемства, адно з нямногіх у горадзе і галіне, працягвала працаваць у поўным аб’ёме да красавіка 1995 года, але непамерныя падаткі, чарговасьць плацяжоў, плацяжы за энергарэсурсы і плата за крэдыты (360% + 540% пені) паставілі нас у такое становішча, што аб’яднаньне спынілася. Да цяперашняга часу работнікі прадпрыемства не атрымалі заработную плату за красавік і травень месяц.*

*Мы бачым выйсьце са становішча ў наступных прапановах, вылучаных на вышэйзназваных мітынгах:*

*1. Ануляваць даўгі па крэдытах, бо стаўкі на крэдыты вельмі завышаны, што ў сваёй сутнасьці антынародна. У далейшым зьнізіць працэнтную стаўку на крэдыты да ўзроўню МВФ.*

*2. Зьнізіць колькасьць падаткаў на вытворцаў. Падатак павінен быць толькі ад прыбытку.*

*3. Ураўнаважыць грашовую і таварную масу.*

*4. Зьнізіць гандлёвую надбаўку на выраблены тавар.*

*5. Адмяніць указ аб выплаце заработнай платы ў апошнюю чаргу, пасьля выплаты ўсіх падаткаў і аплаты за энерганосьбіты.*

*6. Адмяніць ПДК (падатак на дабаўлены кошт - А.Д.).*

*У заключэньні паведамляем, што працоўны калектыў разумее, што для моцнай дзяржавы патрэбны значны бюджэт. Але бюджэт ня будзе папаўняцца, калі прадпрыемствы не працуюць.*

*Просім вас самым уважлівым чынам разгледзець нашы прапановы, якія абмяркоўваліся ня толькі прадстаўнікамі, але і на сходах працоўных калектываў і даць адказ".*

Як бачна, існуюць два супрацьлеглыя погляды на сітуацыю, якая склалася на тонкасуконным аб’яднаньні, і шляхі выхаду са становішча. Хто правы і хто вінаваты - павінны разабрацца кампетэнтныя органы. Дырэктар жа аб’яднаньня П.Лубянько назваў “альтэрнатыўны” ліст “стопрацэнтнай бязглуздзіцай неадукаванага чалавека” і падкрэсьліў, што людзі, якія падпісаліся пад ім, лічаць, што падпісваюцца пад іншым лістом. Па яго словах, “ніякіх незаконных дзеяньняў кіраўніцтва не прадпрымала, не прадпрымае і не зьбіраецца прадпрымаць; за кошт сродкаў камбіната ні катэджы, ні гаражы не будуюцца. Што датычыць швейнай фабрыкі, то яна пабудавана чатыры гады таму і зараз на ёй вядуцца толькі аддзелачныя работы і мантуецца абсталяваньне”.

П.Лубянько сказаў, што “ніякае абсталяваньне ў Расеі не набывалася, і ніводнай пастаўкі за мяжу вырабаў з драўніны не праведзена, а з упраўленчага апарату зараз працуюць толькі 11 чалавек”. Ён таксама паведаміў, што з красавіка спынілася адгрузка прадукцыі на экспарт, а за пастаўленую нямецкі бок сапраўды не разьлічыўся. І цана на яе не зьмянялася, як была 4,9 долара за коўдру, так і засталася. Іншая справа, што зьмяніліся падаткі на прадукцыю, узрасла інфляцыя.

Дырэктар лічыць беспадстаўнымі абвінавачаньні ў грубасьці: “Я ня ведаю таго чалавека, з якім бы я груба абыйшоўся. Наадварот, у любы час гатовы прыняць чалавека, даць матэрыяльную дапамогу. Ніводнага работніка сёлета ня звольнілі, не скарацілі. У мінулым годзе 10 чалавек скарацілі па ўласным жаданьні, але ж ім на выбар было прапанавана некалькі прафесій”.

На што спадзявацца спадару Лубянько? На атрыманьне двухмільярднага крэдыту на выплату заробку, каб супакоіць людзей? Але ж яго няма дзе ўзяць: банкі не даюць, напэўна, лічачы прадпрыемства ненадзейным, неплацёжаздольным. Працаваць на экспарт (падпісаны кантракт на пастаўку 1 млн. коўдраў у Германію)? Няма дзеля гэтага абаротных сродкаў. На тое, што прапановы, выкладзеныя ў лісьце, знойдуць паразуменьне ў асоб, да якіх ён зьвернуты? Дык яны на гэта ня пойдуць, бо дзяржаве патрэбны грошы: на выплату пеньсій, зарплат бюджэтнікам ды іншыя мэты. На дапамогу ўраду ў атрыманьні крэдытаў? Дык дырэктар, напэўна, сам разумее, што гэта дарэмныя спадзяваньні, бо прадпрыемстваў, якія апынуліся ў аналагічным з тонкасуконным аб’яднаньнем становішчы, не адзін дзесятак і ўсе просяць дапамогі. Што ж далей? Тупік. І не віна ў гэтым таго ж П.Лубянько, які не адзін год узначальвае прадпрыемства. Пастаў на яго месца Іванова, Пятрова - наўрад ці штосьці зьменіцца ў лепшы бок. Тым больш, што аб’яднаньне сапраўды да красавіка бягучага года працягвала працаваць, пратрымаўшыся значна больш, чым іншыя прадпрыемствы лёгкай прамысловасьці. Вінавата сістэма, якая паставіла айчынных вытворцаў у становішча, калі нявыгадна выробляць прадукцыю ні для ўнутранага, ні для зьнешняга рынку, якая давяла чалавека да галечы. Вінаватыя тыя, да каго калектыў і адміністрацыя зьвяртаюцца па дапамогу...

**А.ДУК.**

## БЯЗ ПРАЦЫ МОЖНА Й ВЫПІЦЬ, І НА «МЭРСЕ» ПАКАТАЦЦА

Досыць вялікая колькасьць, а калі быць больш дакладным, амаль кожны другі з затрыманых Кобрыньскай ДАІ вадзіцеляў, што кіруюць сваімі аўто ў нецьвярозым стане, нідзе не працуе. Цікава, аднак, тое, што сяродіх даволі часта трапляюцца аматары хуткай ды "падагрэтай" язды на аўтамабілях замежных марак. Так што чуткі аб усеагульнай беднасьці перабольшаныя?..

## КОЛЬКАСЬЦЬ СПАРОНАЎ РАСЬЦЕ, КОЛЬКАСЬЦЬ НАРОДЖАНЫХ ЗЬМЯНЬШАЕЦЦА

Красамоўныя лічбы прыводзіць у адным са сваіх апошніх нумароў газета "Вечерний Брест". За мінулы год у Берасьцейскай радзільні перарвана 4833 цяжарнасьці. З гэтай колькасьці толькі 200 аперацыяў маюць паважныя прычыны (пагроза невынашваньня, выяўленыя з дапамогаю апарата УЗІ калецтвы, сацыяльныя абставіны). Усё часцей пацыенткамі абартарыю становяцца дзяўчынкі 14-16 год, летась іх было 42. Як сьведчыць статыстыка, калі, напрыклад, у Ангельшчыне адзін спарон прыпадае на 4,7 жанчыны, то ў СНД - 5 спаронаў на адну жанчыну. А калі яшчэ пры гэтым ведаць, што некаторыя з іх, на шчасьце, ні разу ня кляліся на такую апэрацыю, то колькі ж прыпадае спаронаў на іншых?

## МАЛОЧНЫЯ РЭКІ НЯ ЎПІСВАЮЦЦА Ў ГАРАДЗКІЯ БЕРАГІ?

Вось ужо некалькі месяцаў прыватныя гандляры прапануюць жыхарам Кобрыня сьвежую малочную прадукцыю, што называецца, "проста з-пад каровы". Праўда, гандаль ідзе хаця й бойка, аднак адбываецца на вуліцы, на ходніках каля крамаў. Таму нядаўна санэпідстанцыя забіла трывогу, а днямі выдала пастанову, якой забараняе вулічны гандаль малочнай прадукцыяй без адпаведнай праверкі й дазволу на тое, а таксама папярэджвае аб адказнасьці за парушэньне. Як адрэагавалі на гэта прыватнікі? Пакуль амаль ніяк: практычна ў кожнага з іх ёсьць сталыя пакупнікі, якія ўжо прызвычаіліся купляць з раніцы сьвежыя малачко, сьмятанку ды тварог, прычым крыху таньней, чым у крамах. Дый, як правіла, забароны ў падобных выпадках спрацоўваюць рэдка. Бо есьці хочацца ня толькі пакупнікам, але і гандлярам.

**ЯГОРЫК**

# СПАДАР ДУБКО НАВЕДАЎ МУЗЕЙНЫЯ ФОНДЫ

**На мінулым тыдні культурная грамадзкасьць горада была ўстрывожаная чуткамі пра магчымую перадачу яшчэ аднаго будынку музея гісторыі рэлігіі праваслаўнаму жаночаму манастыру. Гутарка ішла пра будынак, у якім знаходзяцца зараз: фондасховішча, бібліятэка і рэстаўрацыйная майстэрня музея. Пра тое, наколькі рэальнай была пагроза высяленьня, карэспандэнт "Пагоні" папрасіў распавесьці дырэктарку музея сп. КАРНІЛАВУ, якая, у прыватнасьці, сказала:**

- Пагроза сапраўды існавала. Настаяцельніца манастыра паставіла перад уладамі пытаньне аб перадачы манастыру вышэйзгаданага будынку. У мінулы чацьвер музей наведаў старшыня аблвыканкаму сп.Дубко, начальнік упраўленьня культуры сп. Брыкач і шэраг іншых адказных асобаў, якія на мейсцы павінны былі вырашыць гэтую праблему. Высокая камісія наведала новы будынак музея па вуліцы Замкавай, 16 і была непрыемна ўражаная нізкай якасьцю рэстаўрацыйных работ.

Затым старшыня аблвыканкаму ўпершыню ў жыцьці, як сам прызнаўся, наведаў музейныя фонды, дзе прыйшоў у захапленьне ад убачаных рэчаў і адназначна выказаўся за захаваньне за музеем гэтага будынку, нягледзячы на тое, што прысутная матушка Гаўрыіла тут жа пусьціла сьлёзы, што манастыр ня можа суіснаваць побач з музеем.

Гэта, безумоўна, слушны аргумант, але калі абодва бакі трапілі ў складаную сітуацыю, то трэба шукаць кампраміс, а для яе (настаяцельніцы) кампрамісу не існуе і, дзякуй Богу, што пакуль справа вырашылася на нашу карысьць, бо перанесьці фонды ў непрыстасаванае памяшканьне было б сапраўдным злачынствам.

**- Такім чынам, будынак фондасховішча будзе належаць музею да таго часу, пакуль ня будзе скончана рэстаўрацыя на Замкавай, 16?**

- Так. Мы атрымалі вусныя гарантыі, што дзяржава будзе па меры магчымасьці фінансаваць рэстаўрацыйныя работы. Аднак спадзявацца на хуткае іх завяршэньне пакуль не даводзіцца.

**Што ж, на гэты раз розум узяў верх, і музей, дзякуючы якому захаваўся комплекс былога базыльянскага кляштару, а таксама тысячы ўнікальных культавых рэчаў, што былі выратаваныя ад зьнішчэньня, адрэстаўраваныя і зараз часткова перадаюцца канфесіям, атрымаў часовую, хутчэй за ўсё, перадышку. Можа быць, дзякуючы таму, што кіраўніцтва вобласьці ўпершыню дакранулася рукамі да гісторыі свайго народа. У якія б гэта фонды запрасіць "таварыша" Лукашэнку?**

**Вінцук МАЛЬСКІ**





ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

СЯРГЕЙ ЁРШ

# ПАСЬЛЯВАЕННЫ СУПРАЦІЎ БАЛЬШАВІЦКІМ АКУПАНТАМ НА БЕЛАРУСІ

(Працяг. Пачатак у N23)

## 3.КРАЙ ЗМАГАЕЦЦА СУПРАЦЬ АКУПАНТА

*"Ні рэпрэсіі, ні кары*
*Не застрашаць наш народ,*
*Знаюць добра камісары,*
*Які мсьціўы "Чорны Кот".*

(А. ШАВЕЛЬ. ГЕНЭРАЛУ ВІТУШКУ. ЧАСОПІС "ПАТРЫЁТ" (АНГЕЛЬШЧЫНА, N2, 1950г.).

З прыходам Чырвонай Арміі на Беларусь савецкая партызанка сама-сабою зьліквідавалася. Але рэшта савецкіх партызанаў, а таксама партызаны нацыянальныя, з лясоў не выйшлі. Найбольш іх было на Наваградчыне, Ваўкавышчыне, Слонімшчыне й на Палесьсі. Да іх далучыліся шматлікія ўцекачы ад мабілізацыі ў Чырвоную Армію, былыя жаўнеры БКА, паліцыянты, працаўнікі грамадзянскіх установаў, сябры СБМ. Ю.Стасевіч адзначае, што "гэтая маса не была арганізаваная, трымалася малымі групкамі, недалёка сваіх мясцовасьцяў, робячы напады толькі па неабходнасьці, здабываючы прадукты, ці ліквідуючы даўшыхся ў знакі, наехаўшых, ці мясцовых камісараў, агентаў і даносчыкаў".

## МАБІЛІЗАЦЫЯ Ў ЧЫРВОНУЮ АРМІЮ.

Улетку 29 ліпеня 1944 г. ЦК КП(б)Б і СНК БССР прынялі пастанову "О мероприятиях по обеспечению проводимой мобилизации граждан 1894-1926г.г. рождения".Пастанова патрабавала за кароткі тэрмін правесьці рэгістрацыю прызыўных узростаў з тым, каб паўней выявіць наяўнасьць годных да прызыву ў войска асоб мужчынскага полу. Але заходнебеларуская моладзь не хацела ісьці ў чужое войска. Акрамя мабілізацыі ў савецкую 1944 г. ў БКА, тут памяталі мабілізацыю ў польскае войска ў верасьні 1939 г. Атрымоўваецца, што за пяць гадоў Заходняя Беларусь вытрымала тры мабілізацыі ў розныя арміі! А яшчэ ж былі мабілізацыі ў партызанскія атрады: польскія, савецкія, украінскія, беларуская...

Улетку 1944г. найбольшы супраціў мабілізацыі адзначаўся ў Іўеўскім, Радунькім, Юрацішкаўскім, Воранаўскім, Івянецкім, Валожынскім раёнах Баранавіцкай вобласьці й у Ашмянскім, Астравецкім, Пастаўскім, Смаргонскім Вялейскай вобласьці. У афіцыйных дакумантах адзначалася: "Многие военнообязанные этих регионов уклоняются от мобилизации и скрываются в лесах... Имеются случаи угроз и даже убийство руководителей с/советов, занимающихся вопросами отправки военнообязанных на сборные пункты ... налицо массовые случаи саботажа, отказа в приеме повесток об мобилизации, неявки на призыв и вооруженного сопротивления".

У Іўеўскім раёне з 15 сельсаветаў толькі ў трох старшыні с/саветаў са сваім апаратам знаходзіліся на мейсцах. Астатнія былі вымушаныя жыць у раённым цэнтры, бо ў вёсках гаспадарылі "лясныя браты", якія праводзілі сваю мабілізацыю. Таму з раёну на мабілізацыю не прыйшоў ні адзін чалавек. Камуністычныя функцыянеры нярэдка ў сваіх данясеньнях пісалі пра той ці іншы раён: "ввиду наличия крупных банд не восстановлена советская власть".

Архіўныя дакументы захавалі мноства трагічных фактаў мабілізацыі ў савецкае войска. Прывяду толькі адзін з іх: "15 июля с.г. при сопровождении 159 мобилизованных из местечка Солы в г. Вилейка, мобилизованные начали разбегаться в лес. В результате применения оружия, сопровождающими убито 18 и ранено 20 человек и в г. Вилейка доставлено только 3 человека". (НА РБ, ф.4, В.37,стр.155, а.35). Бальшавікі паводзілі сябе, як сапраўдныя акупанты: яны рабавалі сялян, адбіраючы ў іх харчы й вопратку, патрабавалі гарэлку, нярэдка п'яныя энкавэдысты й працаўнікі ваенкаматаў забівалі невінаватых людзей... Ці ж маглі беларускія сяляне трываць гэткія зьдзекі? Амаль у кожнага была зброя, у многіх - баявы вопыт. Гэтак і пачынаўся супраціў бальшавіцкім акупантам на Беларусі.

## ДЭСАНТ ГЕНЕРАЛА ВІТУШКІ

Атрымаўшы ад ЦК БНП ранг генерала, М.Вітушка павінен быў арганізаваць на Беларусі Беларускую Вызвольную Армію (БВА), дзеля ўзброенай барацьбы з савецкай уладай за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку. Ягоная група з 27 (або 28) чалавек была скінутая з нямецкага самалёта на Віленшчыне 17 лістапада 1944г.

Пры дэсаньце атрад ген. Вітушкі разьбіўся на некалькі групаў і сабрацца ня здолеў. Вітушка, маёр Багдановіч, Шунько, Грыгарцэвіч і радыстка Чэрамшагіна перабраліся ў Рудніцкую пушчу, дзе былі затрыманыя групай АК. Аб гэтым распавёў на допыце ў МГБ у 1949 г. Г.Багдановіч (Я.Сямашка. Армія Краёва на Беларусі. Мн., 1994). Няведама з якой мэтай, ён паведаміў гэбістам,што Вітушка загінуў 7 студзеня 1945г. у баі з савецкімі войскамі ў раёне возера Кернава. Але гэта было няпраўдай.

А.Міхальчанка пісаў яшчэ ў 1990 г., што на пачатку 1945 г. у Налібоцкай пушчы Міхась Вітушка (псэўда "Лось") аб'явіў сябе генералам паўстанцкай арміі "со странным уголовным названием "Чёрный Кот". Комплектовалась "армия" из коллаборационистов, воспитанных под сенью бело-красно-белого знамени и "Погони". Пачаўшы стварэньне "Чорнага Ката" або Беларускай Вызвольнай Арміі, ген.Вітушка арганізаваў першае злучэньне беларускіх партызанскіх аддзелаў прыкладна ў траўні-чэрвені 1945 г. Ад гэтага часу й пачынаецца арганізаваная барацьба беларускіх партызанаў з бальшавіцкім рэжымам.

Няведамы лёс астатніх дэсантнікаў Міхася Вітушкі, якіх, праўдападобна, ачольваў Янка Гінько. Але, па некаторым весткам, ён загінуў у 1945 г. у баі з аддзелам НКВД.

## ПЕРШЫ ГОД ПАРТЫЗАНКІ

У 1945 г. аддзелы ген. Вітушкі дзейнічалі на Віленшчыне, Гарадзеншчыне і Меншчыне. На астатніх беларускіх землях партызанка была неарганізаваная, нярэдка стыхійная. Там дзейнічалі асобныя партызанскія аддзелы й групы, якія дрэнна кантактавалі паміж сабою й не рабілі больших злучэньняў. На Палесьсі дзеялі ацалелыя аддзелы БНПартызанкі: атамана Івана Перагуда і атамана Харэўскага (Новіка; атрад імя атамана Нябабы). У Аўгустоўскіх лясах дзейнічаў аддзел атамана Язэпа Таўпекі.

Ген. Вітушка стварыў даволі вялікія аддзелы, у якіх было па сто й болей партызанаў. "Чорны Кот" кантраляваў цэлыя раёны, праводзіў акцыі на чыгунцы. Вядомы ўзрыў вайсковага цягніка каля Слоніма, калі было спалена 20 аўтамашын і зьнішчана ўся ахова транспарту. У Крывічах каля Маладэчна партызаны захапілі цягнік з амуніцыяй,але ўсяго забраць не змаглі.

Адзін са сьведкаў партызанскага змагання, якому ўдалося ў 1946 г. трапіць у Нямеччыну, пісаў: "Бальшавіцкія акупанты абыходзяцца з насельніцтвам зусім так, як з ім абыходзіліся і немцы Гітлера. ...Дзесяткамі эшалёнаў беларусы вывозяцца з сваей Бацькаўшчыны ў паўночную Расею. Супраць гэтых нялюдзкіх "дабрадзействаў" Масквы беларусы бароняца галоўна далучэньнем да паўстанцаў. Дзеля гэтага колькасьць паўстанцкіх аддзелаў у Краі, асабліва ў яго заходніх акругах, даходзіць да стану часоў нямецкае акупацы. З гэтае прычыны ўлады бальшавіцкіх акупантаў там абмяжоўваюцца амаль толькі гарадамі. Сёлы ж і мястэчкі ў большыні знаходзяцца пад кантролем партызанаў. Чыгуначныя лініі Беластак-Баранавічы; Беласток-Берасьце амаль ня функцыянуюць: увесь гэты абшар, як і цэлае Палесьсе, знаходзіцца пад уладаю паўстанцаў.

Цікавым ёсьць той факт, што беларускія паўстанцы ня робяць ніякіх шкодаў простым чырвонаармейцам, яны нішчаць толькі камуністых і энкавэдыстых. У сваю чаргу й чырвонаармейцы ў пераважнай масе ня выказваюць варожасьць да паўстанцаў, а нярэдка й самі далучаюцца да іх.

Паўстанцы добра ўзброеныя і абмундзіраваныя. Яны нічога не бяруць у сялян, а часта нават і дапамагаюць ім, бо маюць даволі з бальшавіцкіх складоў і транспартаў, асабліва шмат яны маюць нямецкіх караваў, якія бальшавікі сканфіскавалі ў Прусіі, а потым чыгункаю ці пехатою транспартавалі ў Расею.

Вядомыя выпадкі, калі беларускія паўстанцы ў змаганьні супраць войскаў НКВД і Берутовае Польшчы выступаюць сумесна з украінскімі, польскімі і літоўскімі паўстанцамі". (часопіс "Рух" (Нямеччына), 1946, N 2-3).

Паўстанцы і шырокія масы беларускага сялянства чакалі пачатку вайны Захаду з СССР. Той жа "Рух" пісаў: "Ніхто ў краі ня верыць у доўгі мір і надзея на хуткую немінучую вайну паміж Амэрыкай, Англіяй і Саветамі падтрымлівае партызанаў на духу і дае ім вытрывалысьць ў зацятым змаганьні".

У 1945 г. беларускія партызаны распачалі выданьне сваіх газет, улётак, брашур і плакатаў. Генерал Міхась Вітушка рэдагуе часопіс "ЗА ВОЛЮ".

## «ЧОРНЫ КОТ» МЯНЯЕ ТАКТЫКУ

Ужо вясною 1946 г. становішча партызанаў моцна пагоршылася. Не хапала ежы, а насельніцтва дапамагчы не магло, бо самое галадавала. Не хапала таксама й амуніцы, бо запасы 1944-45гг. ужо разышліся. Здабыць новае было цяжэй, чымсьці раней, бо зьменшылася колькасьць ваенных перавозак. Таму ў 1946 г. на нарадзе камандзераў "Чорнага Ката" было пастаўлена расфарміраваць аддзелы на малыя мяйсцовыя групы ад трох да дзесяці чалавек. Акцыі цяпер праводзіліся толькі падчас бальшавіцкіх палітычных кампаніяў, напады рабіліся толькі на невялікія аддзелы МВД. Да кожнай акцыі зьбіраліся некалькі аддзелаў, да іх далучаліся "ударнікі" (партызаны, якія працавалі ў калгасах, або ў сваіх гаспадарках). Такім чынам, у 1946г. беларускія партызаны "Чорнага Ката" перайшлі на другое трываньне.

Яшчэ адзін сьведка тых падзей успамінаў: "На Бацькаўшчыне поўная цяпер дэзарганізацыя жыцьця, лютуе голад і нячуваны тэрор. На сялян накладваюцца вялікія пастаўкі, за невыкананьне каторых сурова судзяць і ссылаюць. У вёскі прыдзяляюць паасобныя групы чырвонаармейцаў, якія дапільноўваюць здачы паставак, а якіх мусяць сяляне па чарзе пракармліваць. Многія жывуць у зямлянках, у ўцалеўшых хатах жыве на некалькі семьяў (...)".

Бальшавікі адразу пасьля заняцьця Беларусі аднавілі ўсе даваенныя калгасы, а таксама хутка пачалі праводзіць поўную калектывізацыю Заходняй Беларусі.

Сярод усяго беларускага насельніцтва няма веры ў стабілізацыю палажэньня. Усе чакаюць вайны і новых пераменаў. Гэтае чаканьне падтрымліваюць між іншым нават чырвонаармейцы. Сяляне праводзяць пасіўны байкот савецкіх мерапрыемстваў. Гэтак прадстаўнікі ўладаў ня могуць нідзе сабраць сходаў, бо насельніцтва тады хаваецца і разьбягаецца, шукаючы для гэтага розных прычынаў.

Партызанскі рух у некаторых, асабліва лясных мясцовасьцях Беларусі вельмі моцны. Паасобныя партызанскія аддзелы нападаюць на савецкія пункты, узрываюць масты,выкалеіваюць цягнікі. Вядуць таксама ажыўленую прапагандысцкую дзейнасьць, абнадзейваючы насельніцтва аб хуткай гібелі зьненавіджанае бальшавіцкае сістэмы. Асабліва актыўна яны нішчаць бальшавіцкіх даносчыкаў і правакатараў, што рэкрутуюцца спасярод мясцовага насельніцтва. Партызанскай акцыяй у цэнтральнай частцы Беларусі кіруе генерал Вітушка, які ў вачах насельніцтва цешыцца легендарнаю славаю.

Такі жудасны абраз жыцьця на родных загонах нашае Бацькаўшчыны. Аднак ні крывавы тэрор і вынішчэньні,ані ажыўленая бальшавіцкая прапаганда ня могуць спыніць той вялікай хвалі народнага гневу, якая што раз шырэй разьліваецца сёньня па ўсім вялікім прасторы нашае Бацькаўшчыны" ("Рух", N4, студзень 1947).

У 1947 г. кіраўніцтва "Чорнага Ката" пастанаўляе апчаджаць людзей і народнае багацьце, устрымацца ад непатрэбнага драчненьня савецкіх уладаў, бо "партызаншчынай ня вызваліш народу ані краіны, а трэба чакаць вайны й тады дзейць... "Ад гэтага часу рабіліся толькі дробныя мяйсцовыя акцыі, напады, каб "прыпомніць бальшавікам, што трэба езьдзіць асьцярожна й у большай кучы".

## МГБ ЛЮТУЕ

У 1944- пач. 1945гг. асноўны ўдар МГБ; МВД нанесьлі па польскай партызанцы й падпольлю, якія панесьлі вялікія страты. Аднак з сярэдзіны 1945 г. асноўным праціўнікам савецкай улады на Беларусі сталася Беларуская Вызвольная Армія або "Чорны Кот". Прывядзем тут архіўны дакумант, які інфармуе пра вынікі дзейнасьці карнікаў з МГБ й МВД супраць партызанкі й падпольля ў 1944-46 гадах: "Бандитские формирования в первый год после изгнания немцев представляли собой крупные - хорошо вооружённые и экипированные воинские единицы, находившиеся под командой опытных конспираторов и офицеров, объединившиеся и координировавшиеся эмиссарами заграничных центров.(...)

При их разгроме убито 3.035 и арестовано 17.872 бандитов и участников подпольных антисоветских организаций. Разоблачено и арестовано активных пособников банд, подпольных организаций и ставленников немцев 27.950 человек. Разоблачено и арестовано 5.620 агентов иностранных разведывательных и контрразведывательных органов. Всего было ликвидировано 814 подпольных террористических организаций и вооружённых банд, из них: 667 польских, 97 белорусских, 23 украинских и 27 других фашистско-националистических организаций и банд.

В ходе ликвидации подпольных банд и организаций изъято: минометов - 211, противотанковых ружей - 193, пулеметов - 3.587, автоматов и винтовок - 68.377, пистолетов - 2.979, гранат и мин - 36.078, тола - 5 тонн, около 4 миллионов боепатронов, 40 множительных аппаратов, 47 раций, поддерживающих двустороннюю связь с заграничными руководящими центрами.

В этой борьбе с нашей стороны имеются также значительные потери. Общее число убитых с нашей стороны - 924 человека..." (НА РБ, Ф.4,в.29,спр.521, а.28).

Калі ў студзені 1947 г. партызаны ў многіх раёнах Зах.Беларусі сарвалі выбары ў Вярхоўны Савет БССР, у Менску зьбіраецца на сакрэтнае паседжаньне ЦК КП(б)Б, які дае даручэньне міністрам МГБ ў МВД Цанаве й Бельчанку "решительным образом усилить мероприятия" па барацьбе з антысавецкім падпольлем і партызанскім рухам. Паўторна гэткае ж даручэньне яны атрымоўваюць і ў чэрвені 1947г. Ужо ў сьнежні 1947 г. Л.Цанава далажыў ЦК КП(б)Б аб праведзенай "рабоце": "Выявлены и ликвидированы 15 белорусских, польских, украинских националистических организаций в Барановичской, Молодечненской, Брестской, Гродненской и других областях, созданных зарубежными эмигрантскими националистическими центрами по указанию иностранных разведывательных органов.

Полностью ликвидированы 36 активно действующих вооружённых террористических банд, созданных и руководимых этим подпольем, а также нанесён серьезный разгром остальным 41 бандам ..." (НА РБ, ф.4,в.61,спр.479, аа. 3-4).

Савецкія карныя ворганы ў барацьбе з партызанамі ўжываюць ня толькі самалёты, танкі, але й атрутныя газы й разрыўныя кулі, а таксама ілжэпартызанскія групы з супрацоўнікаў МГБ, асобных агентаў, якіх засылалі ў лес, шырокую агентурную сетку, навярбаваных чэкістамі людзей у гарадах і вёсках. Усё гэта выклікала гэткую ж жорсткасьць з боку лесавікоў: у палон гэбісты й камуністы ня браліся, а расстрэльваліся на мейсцы (МГБ расстрэльвала тры чвэрці палонных партызанаў на мейсцы), бязьлітасна нішчыліся агенты МГБ.

(Працяг у наступным нумары)



# Праграма тэлеперадач

## Панядзелак, 26 траўня

**Белорусское телевидение**

15.00 Новости. 15.10 К Дню освобождения Беларуси. "Время выбрало нас". Худ. фильм ("Беларусьфильм"). 1-я серия. 16.15 Творческое об"единение "Мой мир". Все обо всем. Информационно-познавательная программа. 16.35 Литературные встречи. К выходу второй части "Очерков истории Беларуси". 17.15 "Хранители духовных сокровищ" цикла "Чечерский альбом". 17.40 "Взгляд в будущее". К 50-летию Организации Об"единенных Наций. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 "Голоса прошлого". По страницам фестиваля "Возрождение Белорусской капеллы". 19.15 На добрый лад. Телеочерк. 19.25 У нас дома. 20.00 Спортивный телекурьер. 20.20 Протокол. Международная программа. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Клип-концерт. 21.50 День столетия. 21.55 "Поездка в Висбаден". Худ. фильм. В перерыве (23.00) - Новости. 23.40 "Премьер-кино" на Ш Международном кинофестивале женского фильма. 0.05 Под куполом Вселенной.

**1 канал**

16.05 "Элен и ребята". Молодежный телесериал. 16.30 Рэп. 17.00, 20.00 Время. 17.20 Премьера телесериала "Тропиканка" (Бразилия). 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". Телеигра. 19.05 Если... 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Встреча с А.И.Солженицыным. 21.00 "Вдовы". Телесериал. 21.55 Версии. 22.10 Гол. 22.40 Эксклюзив. В некотором царстве, в некотором государстве. 23.20 Новости.

**Канал "Россия"**

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 "Моя война". С.Булаевский. 17.20 Лауреаты премии "Тэфи". 17.25 "К-2" представляет: "Сюжет". 18.15 Купить - не купить. 18.25 Устами младенца. 19.25 Подробности. 19.35 "Последний раз ее видели..." Худ.фильм (Великобритания). 20.40 Репортер."Блокада". Часть 2-я. 21.00 Момент истины. На вопросы А. Караулова отвечает В.Сипачев. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 "Неудобная женщина". Худ.фильм (США).3-я серия. 23.35 Экран криминальных сообщений.

**Санкт-Петербург**

17.25 Детское ТВ. Сказка за сказкой. "Солдатские байки". Часть 1-я. 18.00 Телемагазин. 18.05 Телеблиц. 18.10 Большой фестиваль. 18.30, 21.40 Информ ТВ. 18.45 Спортивные новости. 18.55 "Мануэла". Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 "История четырех женщин. Карла". Премьера четырехсерийного худ.фильма. 1-я серия. 21.10 "Болеро". Балет на музыку Мориса Равеля. 21.30 Дела городские. Встречи с А.Собчаком. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.10 Телеменю. 22.15 Футбол. "Зенит"(Санкт-Петербург) - "Торпедо"(Арзамас).

**ПОЛЬША - 1**

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 "Ида". Фильм пр-ва Дании. 09 15 Маленькие сказки. 09 25 Гимнастика. 09 30 Лето с волшебником. 10 00 Новости. 10 10 "Летающий Киви". Сериал пр-ва Англии. 11 05 "Доктор Квинн". Сериал пр-ва США. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Кулинарная программа. 12 15 Программка для животных. 12 30 Зеленое путешествие. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Сельскохозяйственная программа. 14 00 Оком репортера. 14 05 Через моря и льды. 14 25 Убийство в Мюнхене. 15 00 "Мак и я". Фильм пр-ва США. 16 30 Спортивный журнал. 16 55 Музыкальная программа. 17 00 Молодые мастера балета. 17 20 Альтернативы. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Публицистическая программа. 19 05 Юбилейная программа. 19 30 "Марфи Браун". Сериал пр-ва США. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 Телетеатр. 22 40 Пульс дня. 23 00 Неделя президента. 23 15 Тележурнал. 00 00 Новости. 00 10 "Йокихи". Фильм пр-ва Японии. 01 40 Компьютерная школа. 01 50 Развлекательная программа.

**ПОЛЬША -2**

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 20 Утренний гость. 09 00 Местная программа. 09 30 Комедийный сериал пр-ва Испании. 10 00 Грусть и мечты. 10 20 Портреты с натуры. 11 00 Мультсериал. 11 25 Телесериал. 11 30 Телетурнир. 12 00 "Дворец в оливках". Сериал пр-ва Франции. 12 50 Музыкальный журнал. 14 00 Панорама. 14 20 Сегодня Краков. 16 00 Приветствие. 16 05 Мультсериал. 16 30 Мульттихобби. 17 00 Годы и столетия. 17 30 Апетит на здоровье. 18 00 "Залив Мэрлиноу". Сериал пр-ва Новой Зеландии. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 00 Телетурнир. 20 35 Велосипедное братство. 21 00 "Алло, алло". Сериал пр-ва Англии. 21 30 Автожурнал. 22 00 Панорама. 22 35 "Эмилия'. Сериал пр-ва Канады. 23 30 Сад искусств. 00 00 Репортаж. 00 30 Профессия - любитель. 01 00 Панорама. 01 05 Музыкальная программа.

## Аўторак, 27 траўня

**Белорусское телевидение**

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Зеркало Си-эн-эн. 8.05 Студия "Политика". 8.20 День столетия. 8.25 Финансовое время. 8.40 Туроб"ектив. Путешествия, встречи, отдых. 9.00 Протокол. Международная программа. 9.15 "Сенсация". Худ. фильм. 10.10 Авто-парк. 10.25 "Все мы родом из детства". П Всебелорусский телефестиваль юных талантов. Витебская область. Часть 1-я. 11.55 "Нов и К"-топ. 15.00 Новости. 15.10 "Время выбрало нас". Худ. фильм. 2-я серия. 16.25 "Поздравляем с юбилеем". Вокальная студия г.Могилева. 16.55 "Кайстра". "Песня моя Полесье". Видеочерк. 17.30 Уроки Н.Новожиловой. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.45 "Темная комната". Медицина под маской. 19.20 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией "Артэ" (ФРГ). 20.05 "Лада ОМС" представляет: "Моя любовь, моя печаль". Телесериал. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Скрижали. Артур Шопенгауэр. 21.40 Клип-концерт. 21.50 Реклама. 22.00 "Сенсация". Худ. фильм. 23.00 Новости. 23.15 Экономикст. 23.25 "Музыка без границ". Класс профессора В.П.Скороходова. 0.05 Под куполом Вселенной.

**1 канал**

16.05 "Элен и ребята". Молодежный телесериал. 16.30 Джем. 17.00, 20.00 Время. 17.20 "Тропиканка". Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". Телеигра. 19.05 Тема. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Из первых рук. 20.55 Баскетбол. Чемпионат Европы. Мужчины. Сборная России - сборная Испании. В перерыве (21.35) - Версии. 22.35 Хит-парад Останкино. 23.20 Новости.

**Канал "Россия"**

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.50 Будни. 17.20 Никто не забыт. 17.25 Наш сад. 17.55 Непопулярная тема. 18.10 L- клуб. 19.25 Подробности. 19.35 "Актриса". Худ.фильм. 21.15 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 1-й период. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 2-й и 3-й периоды.

**Санкт-Петербург**

12.00 Стиль жизни. 12.15 "Болеро". Балет на музыку Мориса Равеля. 12.35 "Немецкая волна". 12.55 Телеменю. 13.00 Скорая помощь. 13.30 "Мануэла". Худ.фильм. 14.20 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.45 "Интердевочка". Худ.фильм. 17.05 "Золото". Фильм В.Виноградова. 17.35 По всей России. 17.45 Детское ТВ. "Гадая по сплетениям улиц". 17.55 Телеменю. 18.00 Телемагазин. 18.05 Телеблиц. 18.10 Большой фестиваль. 18.45 Спортивные новости. 18.55 "Мануэла". Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 "История четырех женщин. Луиза". Худ.фильм. 2-я серия. 21.20 "Ты и я". Музыкальный фильм В.Виноградова. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.10 Телеменю. 22.15 Парад парадов. Музыкальное шоу.

**ПОЛЬША - 1**

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседы. 09 00 "Оля". Фильм пр-ва Норвегии. 09 15 Сказка о двух котятах. 09 25 Гимнастика. 09 30 Лето с волшебником. 10 00 Новости. 10 10 Сериал пр-ва Англии. 10 35 Театр пантонимы. 11 00 "Джулия Джокер". Сериал пр-ва Германии. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Рынок труда. 12 20 Это легко. 12 30 Кашубский перстень. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Успехи польской науки. 13 30 Хонда из Польши. 14 05 Горизонт нашего времени. 14 20 Документальный фильм. 14 30 Меандры архитектуры. 15 00 "Кларенс". Комедия пр-ва Канадды. 16 25 Спортивный журнал. 17 00 Играй с нами. 17 25 Турнир городов. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Ария со смехом. 18 40 Музыкальная программа. 19 00 Чрезвычайный пересмотр. 19 30 Сериал пр-ва США. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 "Спеша домой". Фильм пр-ва США. 22 55 Сеймограф. 23 05 Публицистическая программа. 23 30 Танцевальный турнир. 00 00 Новости. 00 10 Репортаж. 00 30 Ддругая Польша. 00 50 Репортаж. 01 25 Концерт.

**ПОЛЬША -2**

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 20 Утренний гость. 09 00 Местная программа. 09 30 "Радиороманнс". Сериал пр-ва Польши. 10 00 Грусть и мечты. 10 20 Документальный сериал. 11 00 Программа для детей. 11 25 Мульсериал. 11 30 Телетурнир. 12 00 "Запретная любовь". Сериал пр-ва Испании. 12 50 Музыкальный журнал. 14 00 Панорама. 14 20 Сегодня Катовице. 16 00 Приветствие. 16 05 Мультсериал. 16 30 Спортивная студия. 17 00 Тележурнал. 17 10 Католическая программа. 17 30 Телетурнир. 18 00 "Залив Мэрлиноу". Сериал пр-ва Новой Зеландии. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 00 Телетурнир. 20 35 Мультсериал. 21 00 Публицистическая программа. 21 50 Спортивная программа. 22 00 Панорама. 22 30 Экологическая программа. 22 40 Репортеры второй программы представляют. 23 00 Академия польского кино. 00 30 Криминальное танго. 01 00 Панорама. 01 05 "Нет речи о насилии". Фильм пр-ва Германии.

## Серада, 28 траўня

**Белорусское телевидение**

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Зеркало Си-эн-эн. 8.15 "Лада ОМС" представляет: "Моя любовь, моя печаль". Телесериал. 8.45 Скрижали. Артур Шопенгауэр . 8.50 "Сенсация". Худ. фильм. 9.45 "Зорная ростань". Телеконкурс молодых артистов эстрады. Финал. Передача 13-я. 10.40 Телеклуб "Гавгав". 11.05 Тэлесябрына. 11.25 Мультфильмы. 12.00 Видимо-невидимо. 15.00 Новости. 15.10 "Время выбрало нас". Худ. фильм. 3-я серия. 16.20 К 15-летию ансамбля "Неруш". Концерт. 17.10 "Крок". "Пять звезд". Телеигра. 18.00 Футбол. Кубок Беларуси. Финал. "Динамо" (Минск-93) - "Торпедо" (Могилев). В перерыве (18.45) - АТН. 19.50 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией "Артэ" (ФРГ). 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия "Политика". 21.50 Клип-концерт. 22.00 День столетия. 22.05 Реклама. 22.15 "Сенсация". Худ.фильм. 23.15 Новости. 23.30 Экономикст. 23.40 Столица. 0.10 Под куполом Вселенной.

**1 канал**

16.05 "Элен и ребята". Молодежный телесериал. 16.30 Тин-тоник. 17.00, 20.00 Время. 17.20 "Тропиканка". Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 "Угадай мелодию". Телеигра. 19.05 В поисках утраченного. Зоя Федорова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.45 Жан Габен в фильме "Садовник из Аржантея"(Франция). 22.15 Версии. 22.35 Новые обыватели. 23.00 Новости.

**Канал "Россия"**

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Дальний Восток. 16.55 Футбол. Чемпионат России. "Торпедо"(Москва) - "Динамо" (Москва). 19.25 Подробности. 19.35 "Санта-Барбара". Худ.фильм. 20.30 Домино Михаила Боярского. 21.05 Зал ожидания. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 "Неудобная женщина". Худ. фильм (США). 4-я серия. 23.35 Экран криминальных сообщений.

**Санкт-Петербург**

12.00 Стиль жизни. 12.15 "Ты и я". Музыкальный фильм. 12.35 "Немецкая волна". 12.55 Телеменю. 13.00 Скорая помощь. 13.30 "Мануэла". Худ.фильм. 14.20 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.40 "Оно". Худ.фильм. 16.40 Исторический альманах. 17.10 Детское ТВ. Сказка за сказкой. "Солдатские байки". Часть 2-я. 18.05 Телемагазин. 18.10 Большой фестиваль. 18.45 Спортивные новости. 18.55 "Мануэла". Худ. фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 "Норвежские мотивы". Док.фильм (Норвегия). 20.30 Блефклуб. 21.05 Консерватор. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.10 Телеменю. 22.15 "Это было у моря". Худ.фильм.

**ПОЛЬША - 1**

07 00 Кофе или чай. 08 45 Беседа. 09 00 "Эмма". Фильм пр-ва Швеции. 09 15 Маленькие сказки. 09 25 Гимнастика. 09 30 Лето с волшебником. 10 00 Новости. 10 10 "Новые приключения черного князя". Сериал пр-ва Англии. 11 00 "Слава". Сериал пр-ва США. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Маленький и большой человек. 12 20 Рыбы, рыбы. 12 30 Тележурнал. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 15 Милитаристы. 13 40 Документальный фильм. 14 05 Повести о кашубской ддеревне.. 14 25 Театральная программа. 14 30 Немного другая история. 14 40 Ностальгическая Варшава. 14 45 Каталог памятников. 15 00 "История Томми Стила". Фильм пр-ва Англии. 16 15 Приятное с полезным. 16 45 Спортивная программа. 17 00 Телетурнир. 17 25 Программа для молодежи. 17 50 Тележурнал. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Развлекательная программа. 18 45 С камерой среди зверей. 19 05 "Солнечный патруль". Сериал пр-ва США. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 "Мозг за миллиард доларов". Фильм пр-ва Англии. 22 05 Пульс дня. 23 20 Что нового. 23 35 Публицистическая программа. 00 00 Новости. 00 10 "Четвертая заповедь". Фильм пр-ва Польши. 01 05 Компьютерная школа. 01 20 Музыкальная программа. 02 00 Документальный фильм.

**ПОЛЬША -2**

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 20 Утренний гость. 09 00 Местная программа. 09 30 "Маски в армии". Сериал пр-ва России. 10 00 Трансляция заседаний сейма. 14 00 Панорама. 16 00 Приветсттвие. 16 05 "Виджет". Сериал пр-ва США. 16 35 Животные вокруг нас. 17 00 Документальный фильм. 17 30 Телетурнир. 18 00 "Залив Мэрлиноу". Сериал пр-ва Новой Зеландии. 18 55 Розыгрыш лото. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 00 Колесо фортуны. 20 35 Каникулы с кроссвордом. 21 00 Программа кабаре. 21 50 Спортивная программа. 22 00 Панорама. 22 35 Экспресс репортеров. 23 05 Телетеар. 00 00 Документальный фильм. 00 30 Духовные тропинки. 01 00 Панорама. 01 05 Концерт.

## Чацьвер, 29 траўня

**Белорусское телевидение**

7.35 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Студия "Политика". 8.15 День столетия. 8.20 "Сенсация". Худ.фильм. 9.15 "Нам лето дарит чудеса". Концерт детских художественных коллективов г.Барановичи. 9.55 Уроки Н.Новожиловой. 10.25 Мультфильмы. 11.00 Королевская охота. 11.40 К 50-летию Победы. Телевизионный Дом кино. "Поют актеры театра и кино". Часть 1-я. 12.25 Мастерская. Художник и время. 15.00 Новости. 15.10 "Время выбрало нас". Худ. фильм. 4-я серия. 16.20 "Кайстра". "Записки сумасшедшего". Телеспектакль. 17.55 SOS. 18.00 АТН, Би-би-си, Си-эн-эн. 18.50 Экономикст. 19.00 К 50-летию окончания второй мировой войны. Пресс-импреза. Три вечера со студией "Артэ" (ФРГ). 19.55 "Крок". "Своевременно". Информационная программа. 20.25 Студия "Эксклюзив". Весы. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.35 Студия "Политика". 21.50 Клип-концерт. 22.00 Реклама. 22.10 "Сенсация". Худ. фильм. 23.10 Новости. 23.25 "Крок". "Большая Медведица". Кино и видео для молодежи. 23.55 Под куполом Вселенной.

**1 канал**

16.05 "Элен и ребята". Молодежный телесериал. 16.30 ...До 16 и старше. 17.00, 20.00 Время. 17.20 "Тропиканка". Телесериал. 18.10 Час пик. 18.35 Лотто "Миллион". 19.05 "Чтобы помнили..." Ю.Демич. Авторская программа Л.Филатова. 19.45 Спокойной ночи, малыши! 20.40 Москва. Кремль. 21.05 Шон Коннери и Брижит Бардо в фильме "Шалако"(Великобритания). 23.10 Версии. 23.30 В мире джаза. 23.55 Новости.

**Канал "Россия"**

16.00, 19.00, 22.00 Вести. 16.20 Новая линия. 16.55 Карьера. 17.25 "Давно стихами говорит "Нева". 18.10 "Сиди и смотри". Юмористическая программа. 18.25 Караоке по-русски. 19.25 Подробности. 19.35 "Санта-Барбара". Худ. фильм. 20.30 Сам себе режиссер. 21.05 Киноафиша. 21.15 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 1-й период. 22.30 Река времени. 22.35 Автомиг. 22.40 Хоккей. Кубок Стэнли. Финал. 2-й и 3-й периоды.

**Санкт-Петербург**

12.00 Стиль жизни. 12.15 "Фантазия". Музыкальный фильм. 12.35 "Немецкая волна". 12.55 Телеменю. 13.00 Скорая помощь. 13.30 "Мануэла". Худ.фильм. 14.20 Советы садоводам. 14.30, 18.30, 21.40 Информ ТВ. 14.45 "Городской романс". Худ.фильм. 16.25 Телекомпакт. Музыкальное шоу. 17.25 По всей России. 17.35 Детское ТВ. Фестиваль "Невская радуга". 17.55 Телеменю. 18.00 Телемагазин. 18.05 Телеблиц. 18.10 Большой фестиваль. 18.45 Спортивные новости. 18.55 "Мануэла". Худ.фильм. 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 Ура! Комедия. "Поездки на старом автомобиле". Худ. фильм. 21.25 "Сияет мне". Музыкальный фильм. 21.55 Спорт, спорт, спорт... 22.10 Телеменю. 22.15 Футбол. "Зенит"(Санкт-Петербург) - "Нефтехимик"(Нижнекамск).

**ПОЛЬША - 1**

07 00 Кофе или чай? 08 45 Беседа. 09 00 "Агата". Фильм пр-ва Швейцарии. 09 15 Маленькие сказки. 09 25 Гимнастика. 09 30 Лето с волшебником. 10 00 Новости. 10 10 "Морские сорванцы". Сериал пр-ва Новой Зеландии. 10 35 Братство игр и приключений. 11 00 "Репортер идет по следу". Сериал пр-ва Канады. 11 50 Музыкальная программа. 12 00 Четверть часа на экране. 12 15 Жить безопасней. 12 30 Тележурнал. 13 00 Новости. 13 10 Агробизнес. 13 20 Между нами животными. 13 40 Тележурнал. 14 00 Клипер. 14 20 Животные мира. 15 00 "Брак по расчету". Комедия пр-ва Польши. 16 30 Спортивный журнал. 17 00 Мультсериал. 17 25 Молодые мастера балета. 17 50 Календарь XX века. 18 00 Телеэкспресс. 18 20 Здоровье. 18 40 Католический журнал. 19 05 "Голливудские волшебники". Сериал пр-ва США. 19 30 "Папа майор". Комедийный сериал пр-ва США. 20 00 Вечеринка. 20 30 Новости. 21 10 "Жар тропиков". Сериал пр-ва Канады. 22 05 Дебаты. 23 20 Правительственный журнал. 23 30 Журнал о риске. 00 00 Хозяйственные новости. 00 15 Документальный фильм. 02 10 Моя жизнь.

**ПОЛЬША -2**

08 00 Панорама. 08 10 Спортивная программа. 08 20 Утренний гость. 09 00 Местная программа. 09 30 "Семейные узы". Сериал пр-ва США. 10 00 Трансляция заседаний сейма. 14 00 Панорама. 16 00 Приветствие. 16 05 Мультфильм. 16 30 Программа о животных. 17 00 Концерт. 17 30 Телетурнир. 18 00 "Залив Мэрлиноу". Сериал пр-ва Новой Зеландии. 19 00 Панорама. 19 10 Местная программа. 20 00 Один из десяти. 20 35 Клуб пана Рыся. 21 00 Спортивная программа. 22 00 Панорама. 22 35 "Крестный отец". Фильм пр-ва США. 00 05 Люблю кино. 01 00 Панорама. 01 05 Люблю кино.

